


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

*№ 14 (43). Слонім. 3 — 9 красавіка 1998 г.* *Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік* *Кошт свабодны*


# Мы ў сваякі не набіваемся, мы проста хочам пісаць праўду

У чарговы раз улады горада і раёна далі нам зразумець, што "Газета Слонімская" – нежаданае для іх выданне. Бо як інакш можна патлумачыць адмову ў акрэдытацыі нашых журналістаў пры гаррайвыканкамах.

"Ваша газета недзяржаўная і акрэдытоўваць карэспандэнтаў лічым нямэтазгодным", – так, напрыклад, паведаміў рэдакцыі старшыня райвыканкама Станіслаў Здановіч на запыт аб дазволе прысутнічаць нашым супрацоўнікам на мерапрыемствах, якія праводзіць выканкам.

Атрымліваецца, што калі газета недзяржаўная, то яе работнікі не грамадзяне Беларусі і жывуць яны па-за межамі краіны?

Аднак, калі так лічыць начальства, то гэта не значыць, што такой думкі прытрымліваюцца чытачы нашай газеты. Вядома, што сёння кіраўнікі пры ўладзе не выбіраюцца, а прызначаюцца па вертыкалі. Але, тым не менш, яны жывуць за кошт тых падаткаў, якія плоцяць і нашы чытачы, а іх у нас больш 6-ці тысяч чалавек. І людзі хацелі б ведаць, куды і на што ідуць іх грошы, і што робіць начальства разам са сваёй арміяй чыноўнікаў, каб ім жылося лепш?

Аднак, падобна, што чым менш людзі ведаюць пра тое, што робіцца ў калідорах улады, тым начальства надзейней сябе адчувае. "Газета Слонімская" – незалежнае выданне, а значыць будзе пісаць праўду, якая, можа, не падабацца начальству. Крытыка, як вядома, не шакалад, каб яе любілі. А мы ў сваякі не набіваемся...

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

СЛОНІМСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
...нім, вул. Чырвонаармейская, 40
Тэл. 2-14-34

СЛОНИМСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
231800, г. Слоним, ул. Красноармейская, 40
Тел. 2-14-34

Ад 13.04.98 № 02-15/6-11

На № 5 ад 12.03.98

Г.Слонім
вул. Я.Купалы,5
Рэдактару газеты
«Газета Слонімская»
Валадашчуку В.У.

На Ваш № 5 ад 12.03.98 г. Слонімскі гарадскі выканаўчы камітэт паведамляе наступнае: на масавых мерапрыемствах, якія праводзіць выканаўчы камітэт у горадзе (мітынгі, фестывалі, урачыстыя сходы), вашы карэспандэнты могуць прысутнічаць без пэўнага дазволу.

Рэгламентам работы гарадскога выканаўчага камітэта прадугледжана прысутнасць на яго пасяджэннях толькі прадстаўніка газеты «Слонімскі веснік», адным з заснавальнікаў якой з'яўляецца выканаўчы камітэт.

Старшыня гарвыканкама А.М.Лакцюшын

Угрыновіч 21234

Вх. N3 ад 25.03.98

СЛОНІМСКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ
231800, г. Слонім, вул. Чырвонаармейская, 40
Тэл. 2-13-36, 2-11-30

Ад 25.03.98. № 02-12/393

На № 4 ад 12.03.98

Рэдакцыя газеты
"Газета Слонімская"
Рэдактару
Валадашчуку В.У.

Паведамляем, што райвыканком з'яўляецца адным з пяці заснавальнікаў газеты "Слонімскі веснік". Яна шырока паведамляе чытачам аб дзейнасці райвыканкома, аб сацыяльна-эканамічным развіцці раёна, жыцці яго жыхароў.

Ваша газета недзяржаўная і акрэдытоўваць карэспандэнтаў лічым немэтазгодным.

Старшыня выканкома С.Т.Здановіч

## Чытайце ў нумары:



ЦЫТАТА НУМАРА

## Калі баліць душа



"У вытворчай сферы запрацавала наша прамысловасць, спадзяюся – гэта пералом у крызісе. Нашы кіраўнікі акунуліся ў рыначную абстаноўку, знаходзяць выйсце, – вытворчасць набірае тэмпы... І калі б не агульнарэспубліканскія, агульнарасійскія праблемы, то сёння прамысловасць горада працавала б значна лепш. А душа баліць з-за таго, што не хапае грошай у бюджэце".

**Алег Лакцюшын**, *"Слонімскі веснік", 31 сакавіка 1998 года.*

## Прэм'ерай зацікавілася начальства

**Упершыню за ўсю гісторыю існавання Слонімскага беларускага драмтэатра паглядзець прэм'еру спектакля прыйшлі першыя кіраўнікі горада і раёна.**

Старшынь гаррайвыканкамаў Алега Лакцюшына і Станіслава Здановіча вельмі зацікавіла пастаноўка "Мы ідзём глядзець "Чапаева", якую яны паглядзелі ў мінулую нядзелю, 29 сакавіка. Хоць самога Васіля Іванавіча Чапаева, як персанажа, у спектаклі не было, але прэм'ера кіраўнікам усё роўна спадабалася.

Сяргей ЧЫГРЫН

## Нас усіх хутка перапішуць

**У аўторак, 31 сакавіка, адбылося паседжанне камісіі райвыканкама па садзеянню перапісу насельніцтва Беларусі, які пройдзе ў лютым 1999 года.**

На паседжанні быў распрацаваны і зацверджаны план работы камісіі на 1998-1999 гады.

Міхась ЗАГОРСКІ

## Количество праздничных дней уменьшилось

**Президент Александр Лукашенко своим указом утвердил перечень праздничных нерабочих дней в году.**

Отныне их будет только девять: **1 января** – Новый год; **7 января** – Рождество Христово (православное Рождество); **8 марта** – День женщин; по календарю православной конфессии – Радуница; **1 мая** – Праздник труда; **9 мая** – День Победы; **3 июля** – День Независимости Республики Беларусь (День Республики); **7 ноября** – День Октябрьской революции; **25 декабря** – Рождество Христово (католическое Рождество). Таким образом, из ранее существовавшего перечня выходных праздничных дней исключены четыре праздника: 15 марта – День Конституции Республики Беларусь; вторые дни (понедельники) католической и православной Пасхи; 2 ноября – День памяти (Дзяды).

В то же время, в число "государственных" праздников вошли День единения народов Беларуси и России (2 апреля) и День Государственного герба и Государственного флага Республики Беларусь (второе воскресенье мая).

БелаПАН

ЗДАРЭННІ

## Папаўся

27 сакавіка супрацоўнікі міліцыі затрымалі слонімца К., які з мэтай спекуляцыі скупіў тварагу і мяса на суму больш, як 5 млн. рублёў.

## Трагедыя ў лесе

**У мінулую пятніцу, 27 сакавіка, у лесе каля вёскі Тушэвічы здарыўся трагічны выпадак.**

Мясцовы жыхар, пенсіянер Аляксей Т. на ўласным трактары вёз дровы ў вёску. У адным месцы трактар трапіў у роў, які кіроўца не заўважыў, у выніку машына перакулілася. Гаспадар загінуў на месцы.

## Адзін пажар і дзве смерці

**30 сакавіка ў вёсцы Вялікая Кракотка здарыўся пажар, у выніку якога загінулі два мясцовыя жыхары.**

Высветлілася, што паляводы калгаса імя Дзяржынскага Васіль Ш. і Васіль Ф. пасля ўжывання добрай дозы гарэлкі заснулі. Тым часам з печы выпалі вуглі і загарэлася смецце. Абодва вяскоўцы атруціліся чадным газам. Пажар патушылі жыхары Вялікай Кракоткі ўласнымі сіламі.

## Пажывіліся

**Страшэнны беспарадак убачылі ў сваёй кватэры на вуліцы Косаўскі тракт муж і жонка Б., калі прыйшлі з работы.**

Вэрхал зрабілі невядомыя, якія скралі ў іх 35 млн. рублёў і залатыя вырабы.

## Дрэва забіла

**Добрую справу вырашыў зрабіць у мінулы выхадны дзень жыхар Шылавіч Аляксандр Герка — спілаваць сухую таполю на падворку сваёй маці, якая жыве ў Чапялёве.**

Дзеля гэтага ён спецыяльна прыгнаў аўтакран і запрасіў на дапамогу некалькіх знаёмых мужчын з бензапілой. Закіпела работа, але праз некаторы час здарылася бяда – спілаванае дрэва, падаючы, ударыла Аляксандра, у выніку чаго ён загінуў.

## Зэльвенскія злодзеі

**Яшчэ двух цялят укралі з жывёлагадоўчай фермы калгаса "1 Мая".**

Не так даўно гаспадарка не далічыся трох цялят на ферме вёскі Мілаванне, але хто іх украў, пакуль не ўдалося высветліць. А вось на гэты раз міліцыя спрацавала аператыўна і знайшла злодзеяў. Імі аказаліся двое маладых хлопцаў з Зэльвенскага раёна.

## Красці хадзіў, як на працу

**Днямі слонімскі суд накіраваў «частное определение» у мясцовы аддзел унутраных спраў, дзе ўказаў на нізкі прафесійны ўзровень міліцыянераў па вышуку крадзенага транспарту і рэкамендаваў прыняць меры па ліквідацыі ўказаных недахопаў.**

*(Працяг матэрыялу чытайце на 2 стр)*

## Такі госць, што ў горле косць

**Нядаўна слонімец К. зайшоў у госці да свайго сябрука, які жыве на Чырвонаармейскай вуліцы. Той гасцінна яго сустрэў чаркай і шкваркай.**

Але, калі госць сышоў з хаты, гаспадар выявіў, што зніклі тры мільёны рублёў, аб чым ён і паведаміў у міліцыю.

Пазней высветлілася, што пакуль гаспадар накрываў на стол, госць падчысціў яго пакоі.

## Не прайшло і паўгода...

**Днямі ў міліцыю патэлефанаваў невядомы і паведаміў месца знаходжання тэлефона-факса і ксеракса, якія ў жніўні мінулага года былі ўкрадзены з кабінета дырэктара быткамбіната.**

Калі па ўказаным адрасе прыехала аператыўная група, то пераканалася, што ананімны званок пацвердзіўся.

Узрадаваныя гэтай звесткай бытавікі спадзяюцца, што хто-небудзь паведаміць, дзе знаходзіцца яшчэ адзін украдзены тэлефон-факс.

**Падрыхтавалі Валянцін ЧУРЫЛА і Сяргей ЁРШ**

АНАЛИТИКА

# Всё не как у людей

Станислав БОГДАНКЕВИЧ,
профессор, бывший председатель правления Национального банка

*Обвал курса белорусского рубля, который произошел в первой половине марта, не был чем-то неожиданным. Все действия белорусских властей вели именно к такому краху финансовой политики государства.*



**Петр Прокопович, новый председатель правления Национального банка Беларуси, родился в 1942 году в Брестской области. По национальности — белорус. Образование — высшее. Специальность — инженер-строитель. Член-корреспондент Белорусской инженерной академии.**

**Трудовую деятельность начал в 1960 году каменщиком в одном из строительных объединений, которое впоследствии и возглавил. Неоднократно избирался депутатом местных Советов. В 1990-95 годах — депутат Верховного Совета Республики Беларусь. С марта 1996 года — заместитель главы администрации президента Беларуси по экономическим вопросам. На должность первого заместителя премьер-министра П.Прокопович был назначен указом президента в конце декабря 1996 года. В правительстве отвечал за решение экономических проблем, связанных с реализацией программы социально-экономического развития страны до 2000 года. Петр Прокопович считается одним из "главных идеологов" нынешней экономической политики белорусского руководства.**

## Вдохновитель реформ

Среди множества причин, вызвавших финансовый кризис, хочу прежде всего выделить две основные. Первая — существенный рост денежной массы, которая только за минувший год возросла в республике на 203%. Если в 1997 год белорусская экономика входила, имея в обороте 20,8 триллиона рублей, то завершала год уже с 42 триллионами.

И вдохновителем подобных действий был не кто иной, как занимавший в то время пост первого вице-премьера Петр Прокопович. В 1994-95 году, когда я возглавлял Национальный банк страны, а Петр Петрович был депутатом Верховного Совета Беларуси двенадцатого созыва, мы часто дискутировали с ним на заседаниях парламента. Мой оппонент доказывал, что эмиссионные кредиты в реальную экономику (прежде всего на жилищное строительство — ему, строителю по профессии, эта рубашка ближе к телу) не влекут за собой роста инфляции. Казалось бы, несостоятельность подобных утверждений всем очевидна. "Пустые" деньги, не взирая на то, хотят их пустить на доброе дело или же на какое-то иное, неизбежно несут экономически ощутимый вред.

Но Петр Петрович не соглашался с моими доводами. Он уверен, что с помощью кредитной эмиссии можно увеличить коэффициент монетаризации валового внутреннего продукта. На практике это нужно понимать так: если увеличить количество денег, пускаемых в оборот, например, вдвое, то и купить на них можно будет в два раза больше. Но ведь человеку, даже мало-мальски разбирающемуся в финансах, очевидно: как только необеспеченные деньги войдут в экономику, тут же начинается инфляция. И рабочий, даже если ему действительно увеличат зарплату вдвое, спустя какое-то время, не столь уж длительное, не сможет купить на эти деньги то, что он был в состоянии приобрести на предыдущую зарплату. Это — пример из житейской экономики. Однако большая часть эмиссионных денег попадает не людям, а направляется в промышленность и сельское хозяйство, и потому их разрушительная сила еще больше.

Отсюда прямая связь со второй главной причиной обвала — отрицательной процентной ставкой, когда процент по вкладам ниже процента инфляции. Инфляция в промышленности Беларуси в прошлом году составляла 90%, а кредитная ставка долгое время не превышала 36% и только позже была поднята до 50. При этом белорусские финансисты типа Прокоповича и Алейникова ссылаются на пример России, где кредитная ставка — тоже 50%. Однако они то ли по незнанию, то ли умышленно не добавляют к этому, что инфляция в российской промышленности, в отличие от Беларуси, за 1997 год составила всего 11%.

## Кто «подкосил» белорусский рубль?

Заявления президента Александра Лукашенко и госсекретаря Совета безопасности Виктора Шеймана о том, что обвал белорусского рубля спровоцировали российские банки, говорит или об их некомпетентности, или о желании навести "тень на плетень". Российские банки, если бы они даже и пожелали пойти на обвал белорусского рубля, то в нынешней ситуации не смогли бы этого сделать. Белорусских денег в России находится "с гулькин нос", и об этом несколько позже сказал сам Лукашенко. Беларусь и Россия уже практически перешли на бартерную систему расчетов. Выплаты реальными белорусскими деньгами осуществляются за очень ограниченный круг товаров, производимых вовсе не в нашей республике. Это, к примеру, газетная бумага или рыбопродукты. Но таких товаров в Беларусь поступает очень мало в сравнении с общим объемом двустороннего товарооборота, и даже массовый "сброс" их в Беларусь московскими коммерсантами не смог бы подкосить курс белорусского рубля.

Да, сброс белорусских рублей в Москве в конце февраля — начале марта действительно имел место, но он не был преднамеренным, преследующим цель подорвать курс белорусской валюты. Просто российские предприниматели и банки, имеющие контакты и контракты с белорусскими партнерами, проанализировав, какими темпами растет инфляция в Беларуси и испугавшись накачивания экономики республики "пустыми" деньгами под посевную, дабы самим не нести потери, начали отказываться от "зайчиков". И российских держателей белорусских рублей легко понять, как понятны действия любого белоруса, у которого завелись лишние "зайчики". Он ведь тут же стремится избавиться от ненадежных денег, приобретая доллары, немецкие марки или другую стабильную валюту.

Сейчас новым главой Национального банка республики назначен Петр Прокопович. Во всем мире высшие должностные лица не только на уровне руководителей центрального банка, но и крупнейших коммерческих банков обязательно проходят аттестацию в авторитетной комиссии. В Беларуси тоже существуют два требования к кандидату на пост главы Национального банка. Во-первых, он должен иметь базовое финансовое образование, во-вторых — как минимум пятилетний стаж работы в банковской системе. А Петр Прокопович не соответствует ни одному, ни другому требованию. А что бывает, когда сапоги начинает точать пирожник, всем известно.

## Куда идём?

Безусловно, фигура главного банкира имеет в финансовой сфере огромное значение. И все же меня куда больше шокировало не назначение непрофессионала на столь высокую должность, а то заявление, которое сделал в программе "Рэзананс" Белорусского телевидения глава президентской администрации Михаил Мясникович. Он сказал, что новое руководство Национального банка будет теперь работать в тесном контакте с президентом, правительством, президиумом правительства. А ведь Михаил Владимирович, будучи первым вице-премьером в правительстве Вячеслава Кебича, больше других контактировал с представителями Всемирного банка, Международного валютного фонда и других известных финансовых организаций. А потому не может не знать, что во всех цивилизованных странах мира Национальный банк законами и практикой всячески отгорожен от диктата исполнительной власти. Если этого не сделать, то правительство может в любой момент заставить Нацбанк включить печатный станок и накачать экономику "пустыми" деньгами. А это — путь к полному развалу и краху. Именно поэтому во всем мире центральный банк лишь подотчетен, но не подчинен, да и то не правительству, а парламенту. Мы же и здесь пошли каким-то своим нецивилизованным путем. За что вскоре жестоко и поплатимся.

БелаПАН

ВЗГЛЯД СО СТОРОНЫ

# "Как я учился в Германии..."

**Автор этой публикации 4 месяца работал и учился у немецкого фермера (гор. Падерборн). Своими впечатлениями он решил поделиться на страницах нашей газеты.**

## 1. Дорога туда

На стажировку в Германию я попал, будучи молодым фермером, по существующей программе между министерствами сельского хозяйства Беларуси и Германии. Вначале прошел собеседование с представителем немецкой стороны, подписал договор о прохождении стажировки в хозяйстве немецкого бауэра (фермера).

В документе были оговорены вопросы проезда, жилья, питания, страховки, выплаты стипендии (карманных денег) и др... Короче говоря, жизнь нашей группы, в которую входили студенты аграрных учебных заведений, молодые специалисты колхозов была запланирована, подготовлена и профинансирована (в основном немецкой стороной).

## 2. Жизнь там

Германия нас "встретила" двояко. Чистая, ухоженная, как с цветной картинки, Западная и с обшарпанными фасадами домов, серая Восточная. Но поскольку в Восточной Германии мы были проездом, больше расскажу о Западной, где мы жили и стажировались.

Чистые и уютные города и деревеньки. Зеленые подстриженные на разный манер и вкус сады и газоны. Отличные дороги, магазины, заваленные в большинстве своем качественным товаром, зазывающие покупателей красочными витринами и очередной распродажей товаров по сниженным ценам. Спокойные, неторопливые немцы, пьющие "ну о-очень много" пива на досуге, культурные и вежливые на работе и недоверчивые, немного, к нам в быту.

Первая проблема для наших людей, попавших в Германию, это языковой барьер. Моего знания немецкого едва хватило на объяснения при знакомстве. Успех дел, которые мы могли бы решать в Германии, на 60% зависел от знания немецкого языка, на 20% от знания психологии немцев и оставшихся 20% — от знания существующих законов, порядков, обычаев.

Живя в Германии, выучить язык можно за два месяца. Правда, при условии, если у Вас имеется институтская база изучения немецкого. Я встречал переехавших в Германию "бывших" наших, которые за два года жизни знали только несколько самых распространенных фраз по-немецки. В первую очередь из-за того, что общались они, в основном, с выходцами из русскоязычных республик бывшего СССР.

## 3. Их традиции

Теперь немного о традициях и обычаях. Начну с того, что немцы, в большинстве своем, подозрительно относятся к "русским". Под "русскими" они подразумевают и украинцев, и белорусов. И процесс признания нас идет медленно. Дело в том, что с появившимся потоком иммиграции немцы приобрели и проблемы, которые присущи советскому обществу: воровство, пьянство, загулы.

Перед жестко-демократическими законами граждане и гости этой страны все равны. Однажды, сидя в парке, мы встретили человека из наших, который возвращался в тюрьму из бассейна, на посещение которого ему дали 3 часа. Посадили его за вождение автомобиля без прав. В рабочие дни он "отрабатывал" в какой-то фирме долг государству, а на выходные мог немного отдохнуть и развлечься.

Немцы не признают и не понимают смысла подарков по-славянски. Когда я подарил немцу часы, он так и не понял мой презент, мол, зачем немцу наручные часы, если он их уже имеет. Поэтому, если вы отправляетесь в гости к чистокровному немцу, не тратьте зря деньги на подарки, купите скромный национальный сувенир.

## 4. Труд и отдых

Немецкая семья фермера, где я жил, состояла из четырех человек (два пенсионера), которые имели 80 га земли, 80 молочных коров, 40 быков и 25 телят. Средняя урожайность зерновых, при среднем балле земли, у них составляла 55-70 центнеров с гектара, средние суточные надои от коровы — 25-27 литров молока.

Да, труд у них хорошо механизирован. Фермеры имели три трактора, множество различных агрегатов к ним. Механизирована была дойка на 10 аппаратов. Компьютер следил за нормами раздачи минералосодержащих кормов. Хорошо был налажен сервис по обслуживанию техники. Уже через 12 часов по заказу фермера к их тракторам немецкого и французского производства доставлялась новая запчасть.

С детства немцы воспитываются в духе культового отношения к труду. С отпусками по 25-35 суток они не знакомы до пенсии. Обычно немцы отдыхают максимум 1-2 недели в году.

Александр ВИЛЬКОВСКИЙ

 



# З гісторыі скаўцкага руху

*Скаўцкая дружына "Haszomer-Hacair", 1930-ыя гады*

Скаўтынг — гэта сістэма выхавання маладых людзей з моцным характарам, з актыўнай жыццёвай пазіцыяй, фізічна загартаваных, якія жывуць у згодзе з прыродай і людзьмі. Скаўтынг выхоўвае любоў да роднай мовы, гісторыі, культуры, прывівае пачуццё сяброўства, развівае творчае мысленне, зрокава-вобразную памяць. Будуецца скаўтынг на прынцыпах добраахвотніцтва, самадзейнасці і на прызнанні Бога.

Пачатак гэтаму міжнароднаму руху моладзі паклалі ў 1907 годзе амерыканец Роберт Бадэн-Паўэл і канадскі пісьменнік Сэтан Томпсан. На сённяшні дзень існуе Сусветная арганізацыя скаўцкага руху, якая складаецца з Нацыянальных скаўцкіх арганізацый і мае штаб-кватэру ў Жэневе (Швейцарыя). Скаўцкія арганізацыі дзейнічаюць больш чым у 150 краінах свету, яны налічваюць больш за 16 млн. сваіх сяброў.

Першыя суполкі беларускіх (крывіцкіх) скаўтаў былі створаны ў 1921-1922 гадах у гімназіях Нясвіжа, Клецка і Вільні. Каля вытокаў нацыянальнага скаўцкага руху стаялі пісьменнікі, навукоўцы і грамадскія дзеячы Максім Гарэцкі, Янка Купала, Сяргей Новік-Пяюн, Францішак Аляхновіч і іншыя.

У Слоніме скаўцкі рух арганізаваўся ў 1920-30-ыя гады. У той час у горадзе існавала некалькі моцных скаўцкіх суполак: яўрэйскія скаўцкія дружыны "Haszomer-Hacair", "Hechaluc-Pionier", польскія скаўты дзейнічалі пры дзяржаўнай гімназіі і семінарыі. Беларускіх скаўтаў у той час не было.

Падчас нямецкай акупацыі, у 1943 годзе па ўсёй Беларусі арганізавалася маладзёжная арганізацыя "Саюз беларускай моладзі" (СБМ). Стварыўся СБМ і на Слонімшчыне. Мэты арганізацыі былі вельмі блізкімі да скаўцкіх. СБМ ставіў сваёй мэтай выхаванне моладзі ў нацыянальным духу, яе фізічнае і духоўнае ўдасканаленне. Масавыя арышты слонімскіх эсбээмаўцаў адбыліся ў снежні 1944 года. Многія хлопцы і дзяўчаты прайшлі сталінскія канцлагеры, але збераглі ў сваіх сэрцах любоў да Бацькаўшчыны — Беларусі.

У 1992 годзе арганізавалася Аб'яднанне беларускіх скаўтаў (АБС), якое мае свае структуры ва ўсіх абласцях і ў многіх раёнах Беларусі. На жаль, у Слоніме пакуль няма беларускіх скаўтаў. У Гродна дзейнічае Гродзенская гарадская харугва скаўтаў імя Давыда Гарадзенскага.

**Сяргей ЁРШ**

*Слонімская дружына СБМ, 1943 г.*

НАША ІНТЭРВ'Ю

# «Усё пачынаецца з роднага горада...»

Як ужо пісала "ГС", гарвыканкам падтрымаў прапанову групы слонімцаў і фонда Сапегі ўстанавіць у горадзе помнік Льву Сапегу. Наш карэспандэнт сустрэўся са старшынёй ініцыятыўнай групы Таццянай Кажанковай, каб даведацца, як узнікла ідэя стварэння помніка.

Таццяна Яўгенаўна сказала, што каб будаваць сваю беларускую дзяржаву, трэба ведаць яе гісторыю, мову, культуру. Вядома, што ўсё пачынаецца з роднага горада, гісторыі якога, на жаль, мы не ведаем.

"Мы размаўлялі з людзьмі і высветлілі, што толькі кожны дзесяты слонімец можа сказаць, напрыклад, хто такі Сапега, — гаворыць Кажанкова. — А гэта ж выдатны дзяржаўны дзеяч, які так шмат зрабіў для нашага горада! Вось таму ў кастрычніку 1997 года і была створана ініцыятыўная група, якая пачала займацца арганізацыяй стварэння помніка Льву Сапегу".

***—Хто ўвайшоў у склад групы?***

—Работнікі культуры, юрысты, медыцынскія работнікі, дырэктары некаторых прадпрыемстваў і іншыя людзі, якіх хвалюе праблема захавання гістарычнай спадчыны нашага горада.

***—Вы вырашылі ўшанаваць памяць слонімскага старосты Льва Сапегі. Чаму?***

—Трэба памятаць, што Леў Сапега са звычайнага маленькага мястэчкаператварыў Слонім у важны палітычны цэнтр Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ). Пры старосце Сапегу ў нашым горадзе праходзілі генеральныя соймікі ВКЛ, на які з'язджаліся паслы і сенатары з Беларусі, Літвы і Украіны. Сапега перабудаваў і добраўпарадкаваў гарадскі замак, забрукаваў вуліцы і плошчу, насадзіў сады, збудаваў новыя масты. Ён адбудаваў у 1595 годзе разбураны, адзіны ў горадзе ў той час, каталіцкі касцёл (на яго месцы пасля быў узведзены сённяшні касцёл св. Андрэя — С.Ё.). Пры гэтым старосце Слонім атрымаў свой сённяшні герб.

***—Якія былі Вашы першыя крокі па ажыццяўленню ідэі?***

—У лістападзе 1997 года мы звярнуліся ў рэспубліканскі фонд імя Л.Сапегі з просьбай аказаць нам фінансавую падтрымку. Яны вывучылі пытанне і ў студзені гэтага года далі станоўчы адказ.

Аднак фонд Сапегі цалкам фінансаваць праект не можа. Тым больш, яшчэ невядома, колькі ён будзе каштаваць. Спачатку трэба стварыць праект на каштарысную дакументацыю помніка...

***—Ці вызначана ўжо месца для будучага помніка?***

—Мы мяркуем, што найлепш будзе ўстанавіць яго на плошчы Сапегі, на старажытным Замосці, што каля касцёла св. Андрэя. Аднак на гэты конт існуюць і іншыя думкі. Напрыклад, наш мэр выступіў з прапановай выслухаць думку жыхароў горада. Таму канчаткова месца будучага помніка яшчэ не вызначана.

***— Таццяна Яўгенаўна, раскажыце трохі пра сябе.***

— Я карэнная сланімчанка. Па адукацыі — медык, скончыла Горкаўскі медыцынскі інстытут. З'яўляюся старшынёй прафкама слонімскага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання. Сям'я — муж-урач, двое дзяцей.

***—Дзякуй за гутарку і поспехаў Вам.***

**Сяргей ЁРШ**

НАША ІНТЭРВ'Ю

# Слонимские харцеры

**—Александр, расскажи о слонимских скаутах.**

—В Слониме первая скаутская группа была создана в 1996 году при местном отделении союза поляков. На сегодняшний день эта дружина насчитывает 35 человек и называется она "Звездное небо", что символизирует собой объединение всех скаутов мира. Одним из символов нашей группы является лев, который был взят с герба города. Дружина носит имя Михала Огинского, знаменитого композитора.

**—Чем занимаются слонимские скауты?**

—Путешествуем, изучаем историю и культуру нашего края. Члены дружины участвовали в акции помощи полякам, пострадавшим от наводнения, работали на реконструкции костела, что по улице Первомайской. Мы поддерживаем контакты со скаутами по всей Беларуси, а так же польских городов Торуня и Белостока.

***В нашем городе вот уже несколько лет действует скаутская дружина, командиром которой является Александр Лысюк. Он согласился немного рассказать о своей организации.***

*Александр Лысюк*

**—Выходит, ваша дружина хорошо известна в среде скаутского движения?**

—Летом 1997 года мы выиграли Комендантский Кубок имени защитников Westerplatt (Польша). Принимали участие в третьем и четвертом фестивалях харцерской (скаутской — Е.С.) песни, которые проходили в Польше, где заняли соответственно I и II места.

**—Я знаю, что ты являешься редактором харцерской газеты, которая выходит на польском языке. Расскажи, что это за издание?**

—Эта газета — мой авторский проект. Называется она "Wiesc Harcerska" ("Скаутские вести") и выходит с лета 1997 года. Газета является периодическим изданием скаутской дружины. Она рассказывает о ее жизни и деятельности.

**—Александр, что для тебя значит быть скаутом?**

—Для меня это стиль жизни!

**Елена СИНЯК**

*Скаутская дружина*





ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

## Чырвоны стрыжань

Прашу дзяўчыну-прадаўца, якая, як відаць, нядаўна скончыла школу:

—Мне, калі ласка, чырвоны стрыжань.

Дзяўчына абыякава вымаўляе:

—Што?

—Чырвоны стрыжань.

Бачу, што яна насцярожылася.

—Што-о?

—Я хачу купіць чырвоны стрыжань, — цвёрда кажу.

На твары ў дзяўчыны разгубленасць, недаўменне.

—Што-о-о?

Я вымаўляю па складах:

—Чыр-во-ны стры-жань. Калі лас-ка.

Дзяўчына са страхам глядзіць на мяне. "Хіба я з рэвальверам у магазін уварваўся?" — думаю.

—Чырвоны стрыжань. Калі ласка, — гучна паўтараю. А потым дадаю: — Я да вас звяртаюся на беларускай мове. Вы хто па нацыянальнасці?

—У пашпарце напісана, што беларуска, але ж ...

Перагнуўшыся праз прылавак, я тыкаю пальцам.

—Дайце вунь тое. Яно піша чырвоным чарнілам.

—А-а-а, стержень! — узрадавалася дзяўчына.

Вось такі дыялог. Смешна? Га?

## Без галавы

Іду па вуліцы. Раптам чую:

—Гэй!

Я спыняюся. Праз дарогу да мяне спяшаецца знаёмы настаўнік. Падыходзіць і замест прывітання паведамляе:

—Ты добры хлопец, але ж сёння на педсавеце наш дырэктар абазваў цябе нацыяналістам.

—Перадай свайму дырэктару, — кажу, — што ў яго ёсць туфлі, касцюм, капялюш, але ж няма галавы.

Настаўнік стаіць, разявіўшы рот, а я іду далей.

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**





 

З МІНУЛАГА

# Слонім, 1958 год



*Так выглядаў касцёл святога Андрэя*



*У магазіне «Тканіна» раней прадавалі хлеб і мяса*



*У 1958 годзе танка яшчэ не было*



*Цяперашні будынак міліцыі — 40 гадоў назад*



*Сустрэліся сланімчанкі*

Гэтыя аматарскія фотаздымкі мне падараваў старэйшы слонімскі сябра. На іх адлюстраваны наш горад сорак гадоў назад. У гэтым годзе нараджаліся мае равеснікі, а нашы бацькі былі зусім маладымі. Як хутка бяжыць час! Прайшло ўжо сорак гадоў, гэта так мала і так многа. Кажуць, што ў 1958 годзе ў Слоніме была вялікая паводка, а сто пяцьдзесят навучэнцаў Жыровіцкага тэхнікума вырашылі паехаць на цаліну. У гэтым годзе, напрыклад, жыхары Слоніма выступілі супраць інтэрвенцыі ЗША ў Ліван, а мясцовыя авіямадэлісты занялі першае месца ў абласных спаборніцтвах па авіямадэльнаму спорту. У 1958 годзе на вуліцы Пушкіна быў адкрыты магазін, а ў красавіку гастраляваў драматычны тэатр з Валыні. А больш за ўсё ў гэтым годзе пашанцавала Лідзіі Абрамовіч, якой Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР было прысвоена званне "Маці-гераіня" за тое, што яна нарадзіла і выхавала 9 дзяцей. Вось такім быў для Слоніма 1958 год. Горад тады з кожным днём прыгажэў. Як пісала мясцовая газета "Вольная праца", "за апошні час у ім узведзена многа адміністратыўных будынкаў і новых вытворчых карпусоў, індывідуальных і камунальных жылых дамоў. На вуліцах высаджаны дэкаратыўныя дрэвы і кусты, афармлена многа кветкавых клумбаў". І гэта сапраўды было так. Паглядзіце на фотаздымкі. Ды і слонімцы былі зусім іншымі. Можа, хто пазнае сябе яшчэ маладым і прыгожым, па модзе 50-х гадоў апранутым...

Гэтыя фотаздымкі — наша маленькая гісторыя, гісторыя нашага горада над Шчарай. Любоў да роднага горада не патухае ніколі, як любоў да маці, да дзяцей, да каханага чалавека. А тым больш, што наш старажытны Слонім не любіць проста немагчыма.

Сяргей ЧЫГРЫН



*Аўтастанцыя каля нашай рэдакцыі*



*Касцёл бернардзінак у цэнтры горада*



*Позірк на горад праз Шчару*



*Вуліца Ружанская*



*Вялікая паводка*



*Вуліцу Першамайскую пераходзіць міліцыянер*



*Былы гаркам КПБ*

